**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск —6.45, 17.57, 11.12;
Віцебск—6.36, 17.16, 11.10;
Магілёў—6.34, 17.47, 11.13;
Гомель —6.28, 17.47, 11.19;
Гродна —6.57, 18.15, 11.18;
Брэст —6.59, 18.15, 11.16.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік 4 сакавіка.

**ІМЯНІНЫ**
Хведара, Піліпа, Апанаса; Тамаша, Паўла.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

7 САКАВІКА 1992 г.
субота, № 49 (21827)



# ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ ЖАНЧЫНАЙ У СНД?









Пытанне, вынесенае ў загаловак, — рытарычнае. Іншымі словамі, адказ на яго відавочны і вядомы як таму, хто пытаецца, так і таму, хто адказвае.

Зусім, здаецца, нядаўна адказаць на яго можна было толькі так: савецкая жанчына — самая шчаслівая на свеце, яна ганарыцца тым, што нарадзілася, жыве і працуе на адной шостай часткі сушы. Зараз, у канцы эпохі галоснасці, адказ таксама адназначны, але гучыць некалькі інакш: быць жанчынай у СНД неймаверна цяжка.

Аднак будзем рэалістамі: нават сёння знойдзецца нямала жанчын, поўнасцю задаволеных жыццём, сабой, дзецьмі і зарплатай мужа. І тым не менш, тых, каму ў сённяшніх умовах нават адно дзіця (не кажучы ўжо пра двух ці трох) прыносіць бязмежную колькасць клопатаў, значна больш. Зрэшты, колькасць дзяцей тут, відаць, ні пры чым. Справа, вядома, ва ўмовах. І ўсё-такі быць жанчынай—што гэта, прывілея ці цяжар? Не сумняваюся, што тыя ж амерыканкі, быццам згаварыўшыся, асляпляльна ўсміхаючыся ва ўсе 32 зубы, у адзін голас і з прыдыханнем заявілі б: «Oh, yes!», «Так, быць жанчынай — гэта цудоўна! Тым больш прыгожай. І тым больш у Амерыцы!».

А што нашы дарагія прыгажуні?.. Не трэба быць разумнікам, каб зараней угадаць іх адказ. Уласна кажучы, варыянтаў прадбачыцца два: быць жанчынай — гэта цудоўна, але... (і доўгі пералік аргументаў на карысць «але»). Другія адразу ж рэжуць праўду-матку: быць жанчынай — шчасце, але не ў нас... На жаль, пабудаваўшы развіты сацыялізм і засеўшы на паўдарозе да сацыялізму сталага, мы асудзілі нашых жанчын на вартае жалю існаванне. Накарміць сям'ю, апрануць дзяцей і мужа, самой не скаціцца ніжэй мяжы, за якой перастаеш сябе паважаць, — гэтыя задачы па сіле толькі нашай жанчыне, жанчыне, якая істотна адрозніваецца ад жанчын цывілізаванага свету павышанай вынослівасцю, спантаннай агрэсіўнасцю і разам з тым... невытлумачальнай прывабнасцю (і гэта — пасля знясільваючай штурханіны ў чэргах, дзікай таўкатні ў аўтобусе і бясконцых клопатаў па дому).

Што ж, будзем глядзець праўдзе ў вочы. Да добрага ды нават да нармальнага жыцця нам яшчэ далёка. І таму нашым бедным жанчынам яшчэ доўга прыйдзецца трываць і пакутаваць...

Зрэшты, хопіць аб сумным. На вуліцы вясна, і каляндар нагадвае, што пара рыхтаваць падарункі і віншаванні. Мілыя нашы жанчыны! Нягледзячы ні на што, вам усё-такі ўдаецца захаваць сваю прывабнасць і зачараванне, прыгажосць і абаянне, жаноцкасць і дабрыню. Але колькі намаганняў за ўсім гэтым стаіць.

Ад імя мужчын, прымаючых удзел у выпуску газеты, сардэчна віншую ўсіх вас з цудоўным жаночым святам і жадаю, каб хутчэй настаў той час, калі на пытанне: «Ці лёгка быць жанчынай?» вы, не задумваючыся, абсалютна шчыра і не крывячы душой, горда адказалі: «О, так!» І пры гэтым асляпляльна ўсміхнуліся, зіхатнуўшы жамчужнымі зубкамі і паправіўшы на плячы норкавае манто.

Шчасця вам!

**Ігар КАРНЕЙ.**

# РОЗГАЛАС

## ФЕРМЕРАЎ НА КАНВЕЕР

**НАВАГРУДАК. Ведаць сельскагаспадарчую вытворчасць, умець кіраваць аўтамабілем, разбірацца ў будаўніцтве і ў многім іншым павінны будуць выпускнікі мясцовага саўгаса-тэхнікума. Тут з гэтага года пачнецца падрыхтоўка будучых фермераў. Тыя, хто паступіў у навучальную ўстанову пасля 9 класаў, пройдуць двухгадовы курс навучання, а затым змогуць пры добрай паспяховасці прадоўжыць вучобу ў сельгасінстытуце. Думайце — самі, рашайце — самі...**

## ОХ УЖО ГЭТЫЯ ЕРЭВАНСКІЯ БРУНЕТЫ

**Аказаліся падманутымі ў сваіх лепшых пачуццях дзве маладыя дзяўчыны: работніца адной з фабрык і студэнтка. Вечарам, пазнаёміўшыся ў рэстаране з двума брунетамі з Ерэвана, запрасілі іх да адной з сяброўак на кватэру. Працягвалі вясёлы вечар з застоллем і песнямі, аднак пахмелле аказалася горкім: з кватэры зніклі грошы, 8 прадметаў адзення, залатыя ювелірныя вырабы, магнітафон, норкавая шапка.**

**І калі ўжо дойдзе да дзяўчат простая ісціна: рэстараннае знаёмства вельмі часта паварочваецца сур'ёзнымі непрыемнасцямі. А можа яны самі хацелі зарабіць?**

## ДУМКІ РАЗДЗЯЛІЛІСЯ

**3—4 сакавіка беларуская служба «Грамадская думка» правяла апытанне насельніцтва рэспублікі адносна маючага адбыцца рэферэндуму.**

**1.194 рэспандэнтам, якія прадстаўляюць сельскае і гарадское насельніцтва ўсіх абласцей Беларусі, было прапанавана адказаць на пытанне з фармуліроўкай: «Ваша стаўленне да правядзення рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета, адстаўцы ўрада і арганізацыі датэрміновых выбараў у парламент?». Станоўча да ідэі рэферэндуму аднесліся 33,6 працэнта, адмоўна — 36 працэнтаў і 30,4 працэнта пакуль не маюць пэўнай думкі.**

**Найбольшая колькасць праціўнікаў ідэі рэферэндуму пражывае ў райцэнтрах, іншых малых гарадах і ў сельскай мясцовасці. У Мінску колькасць прыхільнікаў і праціўнікаў рэферэндуму прыкладна аднолькавая.**

## ДВА РЭДАКТАРЫ НА АДНО КРЭСЛА

БАРЫСАЎ. Арыгінальная сітуацыя склалася ў рэдакцыі барысаўскай аб'яднанай газеты «Адзінства»: яна мае сёння аж двух рэдактараў. Аляксандру Алпатаву, які раней узначальваў «Адзінства», калектыў выказаў недавер, а на яго месца аднадушна выбраў былога намесніка Генадзя Ешчанку. Аднак з гэтым рашэннем не пагадзіўся адзін з сузаснавальнікаў газеты — раённы Савет народных дэпутатаў і патрабуе вярнуць старога рэдактара. Журналісты ж працягваюць стаяць на сваім.

Спрэчную справу нядаўна разгледзеў гарадскі суд і прыняў рашэнне: аднавіць А. Алпатава на рабоце. А як быць з Г. Ешчанкам і пазіцыяй калектыву? Наконт гэтага ў судовым рашэнні няма ні слова. Журналісты «Адзінства» падалі апеляцыйную скаргу ў абласны суд.

**В. БУРДЫКА.**

## ЁН ВЫБРАЎ НАРКОТЫКІ...

**ГРОДНА. Напэўна, доўга яшчэ не зможа пускаць да сябе пастаяльцаў адна з жыхарак горада, якая здавала пакой студэнту медінстытута.**

**Прачнуўшыся аднойчы ўначы, яна здзівілася, убачыўшы святло ў яго пакоі. Вядома, занепакоілася і пайшла паглядзець...**

**Студэнт быў мёртвы. Побач з ім пазней знайшлі шпрыц з астаткамі наркотыкаў і гумавы жгут для перацiскання вен... Ён зрабіў такі выбар...**

## Укралі... частку дома

Дзіўныя адбываюцца рэчы — спачатку кралі грошы, ключы, сумкі, а цяпер ужо і на дамы перайшлі...

У начальніка аднаго з гарадскіх ЖЭСаў зладзеі ўмудрыліся ўкрасці частку драўлянага дома, набытага гаспадаром у мінулым годзе для дачы. Факт, відаць, дастойны Кнігі рэкордаў Гінеса, але, на жаль, гэта ніколькі не аблегчыць работу супрацоўнікаў міліцыі.

## ДА ПРЭМ'ЕРА НА КУБАЧАК КАВЫ

6 сакавіка, напярэдадні веснавога свята — Жаночага дня — Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч запрасіў да сябе актывістак жаночага руху рэспублікі.

У сардэчнай абстаноўцы, за кавай, адбылася гутарка. Прэм'ер-міністр сказаў, што падзяляе трывогі маці і жонак складанасцямі цяперашняга часу. Урад заклапочаны становішчам сем'яў ва ўмовах свабоды цэн і будучага беспрацоўя. У прынятай гэтымі днямі пастанове аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва ён пастараўся змякчыць новы ўдар ад падаражання жыцця. Павышана мінімальная зарплата, пераглядаюцца размеры стыпендый, пенсій. Павялічваюцца дапамогі мнагадзетным сем'ям. Уводзяцца штомесячныя выплаты жонкам ваеннаслужачых.

Ішла размова і аб узрастанні ролі жанчын у грамадскім жыцці. З іх шырокім удзелам урад мае намер ажыццяўляць праграму стабілізацыі эканомікі, паступовага павышэння жыццёвага ўзроўню.

Вячаслаў Францавіч павіншаваў жанчын з 8 Сакавіка, пажадаў здароўя і шчасця, падарыў яркія веснавыя кветкі.

## «ВЫСЛАЦЬ У АСОБНЫЯ КРАІ САЮЗА ССР...»

**У дакладзе на закрытым пасяджэнні XX з'езда КПСС 22 лютага 1956 года «Аб кульце асобы і яго выніках» М. С. Хрушчоў, гаворачы аб масавых высяленнях са сваіх родных месц цэлых народаў, заявіў: «Украінцы пазбеглі такога лёсу толькі таму, што іх вельмі шмат і не было куды выслаць. А то ён бы іх выселіў». Напэўна, прысутныя ўспрынялі гэтае паведамленне не як гістарычную рэалію, а як гіпербалізацыю, народжаную эмацыянальнасцю Мікіты Сяргеевіча. Услед за цытатай у стэнаграме з'езда ў дужках рэмарка — «Смех, ажыўленне ў зале». Аднак дакладчык не перабольшваў.**

**Газета «Літературна Україна» (27.02.1992 г.) апублікавала дакумент (на мове арыгінала), які, на мой погляд, уяўляе цікавасць і для беларускай грамадскасці. Выявіў яго ў Цэнтральным дзяржаўным архіве грамадскіх арганізацый Украіны (былы партархіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПУ) кандыдат гістарычных навук Васіль Марачкін. Вось гэты дакумент:**

«Зусім сакрэтна.

Загад № 0078/42
22 чэрвеня 1944 года г. Масква.

Па народнаму камісарыяту ўнутраных спраў Саюза ССР і народнаму камісарыяту абароны Саюза ССР:

Змест: Аб ліквідацыі сабатажу на Украіне і аб кантролі над камандзірамі і чырвонаармейцамі, мабілізаванымі з вызваленых абласцей Украіны.

§ 1

Агентурнай разведкай устаноўлена:

за апошні час на Украіне, асабліва ў Кіеўскай, Палтаўскай, Вінніцкай, Ровенскай і іншых абласцях назіраецца яўна варожы настрой украінскага насельніцтва супраць Чырвонай Арміі і мясцовых органаў Савецкай улады. У асобных раёнах і абласцях украінскае насельніцтва варожа супраціўляецца выконваць мерапрыемствы партыі і ўрада па аднаўленню калгасаў і здачы хлеба для патрэб Чырвонай Арміі. Яно, для таго, каб сарваць калгаснае будаўніцтва, па-драпежніцку забівае жывёлу. Каб сарваць забеспячэнне харчаваннем Чырвонай Арміі, хлеб закопваюць у ямы. У многіх раёнах варожыя ўкраінскія элементы, пераважна з асоб, якія хаваюцца ад мабілізацыі ў Чырвоную Армію, арганізавалі ў лясах «зялёныя» банды, якія не толькі ўзрываюць ваенныя эшалоны, але і нападаюць на невялікія воінскія часці, а таксама забіваюць мясцовых прадстаўнікоў улады. Асобныя чырвонаармейцы і камандзіры, трапіўшы пад уплыў паўфашысцкага ўкраінскага насельніцтва і мабілізаваных з вызваленых абласцей Украіны чырвонаармейцаў, сталі разлагацца і пераходзіць на бок ворага. З вышэйсказанага відаць, што ўкраінскае насельніцтва стала на шлях яўнага сабатажу Чырвонай

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Не палохайце парламентам дзяцей

Нядаўна я быў сведкам маляўнічай сцэнкі: пяцігадовы Янка забаўляў у застоллі дарослых тым, што натхнёна расказваў ім прыдуманыя тут жа розныя дэтэктыўна-фантастычныя гісторыі («гісторыі ў серыях», як ён казаў) пра... дэпутатаў і Вярхоўны Савет. Што толькі не выдумляла дзіцячая фантазія, замешаная на ўражаннях ад такіх фільмаў, як «Супермен», «Кінг-Конг», «Камісар Катані», «Тэрмінатар», «Забіць дракона»! Асаблівы камізм надавала «гісторыям у серыях» тое, што хлопчык складаў іх па прынцыпе, па якім ствараюцца літоўскія анекдоты з адным і тым жа папулярным персанажам: «...І тут падышоў Кіндзюліс». Які б сюжэт ні браў Янка для сваёй чарговай «серыі», ён заканчваў яе, як правіла, словамі: «Тады прыйшоў дэпутат» (або: «Яны прыляцелі ў Вярхоўны Савет»).

Калі хлопчык, прытаміўшыся, замоўк і пераключыў цалкам сваю ўвагу на торт, я спытаўся ў яго, ці не збіраецца ён стаць дэпутатам, калі вырасце. «Не-е!» — катэгарычна пакруціў ён галавой. «Чаму — не?» — пацікавіўся я. «Таму што... Таму што дэпутаты толькі сядзяць, задаюць пытанні і дрэнна рашаюць законы», — такі быў адказ (менавіта такі, паверце, перадаю яго даслоўна).

Былі, як кажуць, і смех, і грэх. Смех — бо ёсць вялікая доля праўды ў выслоўі: вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна. Грэх — бо, здаецца, не зусім педагагічна, не зусім патрыятычна выхоўваць дзяцей у духу негатыўных адносін да нацыянальна-дзяржаўных сімвалаў (у цывілізаваных краінах парламент з'яўляецца адным з нацыянальных сімвалаў). Ну, ды гэта між іншым...

Я не спытаўся ў Янкавых бацькоў, адкуль у хлопчыка такая схільнасць да дэпутацкай тэматыкі і такая недзіцячая дасведчанасць адносна дзейнасці Вярхоўнага Савета. Было і без таго ясна — адкуль. Крытыкуюць яго, бедалагу, сёння з усіх бакоў і ўсе, каму толькі хочацца («кому не лень»). Крытыкуюць за што трэба і за што не трэба, за справу і без справы. З разуменнем, дзе яго віна, а дзе бяда, дзе прычыны, а дзе вынік, і без такога разумення... Уключаю тэлевізар і бачу жанравую, што называецца, сцэнку: рэпарцёр перахоплівае на вуліцы прахожага і, соваючы яму ў твар мікрафон, ставіць пытанне рубам: «Вы давяраеце нашаму Вярхоўнаму Савету ці не?!» Прахожы палохаецца ад нечаканасці і не ведае, што адказаць. «Значыць, давяраеце?» — настойвае рэпарцёр. «Ну, як вам сказаць... Не веда́ю... Не давяраю...».

Чую па радыё (звонкагалосая, модная цяпер скарагаворка): «Сесіі Вярхоўнага Савета нагадваюць колішнія сходы партактыву (гэта ўвогуле праўда, але слухайце, што далей.— А. В.) ...Толькі на тых сходах не лаялі партыю і прымалі рашэнні, а цяпер лаюць партыю, а патрэбныя рашэнні не прымаюць (?)». Чытаю ў адной газеце: «Вярхоўны Савет аб'ектыўна выпрацаваў свой інтэлектуальны і палітычны рэсурс і стаў галоўным тормазам грамадскага развіцця... Парламент працягвае існаванне па інерцыі. Хаця ўсім ужо відаць, што яго партыя канчаткова сыграная». Чытаю ў другой, таксама аўтарытэтнай газеце: «Шаноўныя дэпутаты! Няўжо вы не разумееце, што людзі больш вам не вераць? Няўжо праўду кажуць, што дзеля сваіх меркантыльных мэтаў вы здрадзілі свайму народу і гатовы загнаць яго ў беспрасветную галечу?..». Чытаю ў трэцяй, таксама даволі папулярнай газеце: «Як здабыць касмык воўны з паршывай авечкі?... Як з той авечкі воўну, так і з сённяшняга Вярхоўнага Савета, які ўжо адчуў лёгкі шок і хваляванне ад ініцыятывы дэмакратаў, трэба здабыць максімум. Каб хоць памерці ён мог дастойна».

Дадайце сюды яшчэ загалоўкі накшталт «Парламент, бойся рэферэндуму!» і безапеляцыйны прысуд Жырыноўскага: «Вярхоўны Савет будзе распушчаны, а дэпутаты вісець на слупах!» — і малюнак будзе поўны. Малюнак, як бачым, не для слабанервовых, тым больш — не для дзяцей з іх наіўнай уражлівасцю і няўстойлівай псіхікай.

Цэлым артыкулам на тую ж тэму «разразіўся» заслужаны юрыст рэспублікі, доктар юрыдычных навук прафесар БДУ А. Галаўко (надрукаваны напачатку лютага ў газеце «Звязда»). Не артыкулам — абвінаваўчым актам. Хаця аўтар і дэкларуе клопат пра стварэнне прафесіянальнага парламента, нават падкрэслівае, што «без прафесіянальнага парламента нам не выжыць» (гэтыя словы вынесены ў загаловак), прафесіянальнай, кампетэнтнай, канструктыўнай размовы ў яго, на жаль, не атрымалася. Узялі верх так званы абвінаваўчы ўхіл, пракурорска-выкрывальны пафас. Прытым заслужаны юрыст перабірае-разбірае не толькі рэальныя і ўяўныя хібы нашага Вярхоўнага Савета, але, відаць, для большай пераканаўчасці і большага ўздзеяння на нашых дзяцей, дадае яшчэ і замежны негатыўны вопыт — дакладней, вопыт успрыняцця свайго парламента англійскімі школьнікамі. «Мы не павінны... слепа пераймаць зарубежны вопыт, — перасцерагае прафесар А. Галаўко.— Не так даўно стала здабыткам сусветнай грамадскасці пісьмо англійскага школьніка Джэймса Эрмітэджа, які разам са сваімі аднакласнікамі наведаў парламент. Яго здзівіла тое, што з 600 парламентарыяў у зале прысутнічала ўсяго каля 50-ці. Паводзілі яны сябе проста страшна...» (далей, як чытач, напэўна, помніць, ідзе апісанне жахлівых паводзін членаў брытанскага парламента; і я тут падумаў, ці не ўзяць назад свае словы аб тым, што ў цывілізаваных краінах парламент з'яўляецца адным з нацыянальных сімвалаў?).

Тут можна было б і завяршыць мне сваё эсэ на тэму «Дарослыя дзядзькі, не палохайце дзяцей парламентам, не ўцягвайце іх у свае палітычныя гульні!» і паставіць кропку. Але, як казала мая маці, той можа, каму дае Божа. Не даў Божа на гэты раз. Пры перачытванні артыкула А. Галаўко я раптам спатыкнуўся на абзацы, які ідзе адразу за распавядам англійскага школьніка і лагічна з апошнім не звязаны. «Ці варта пад уплывам нацыяналістычных і іншых эмоцый асобных грамадзян рабіць суцэльныя змяненні і перайменаванні населеных пунктаў, вуліц, дзяржаў? — пытаецца заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь.— Мне здаецца, што ў такіх сітуацыях трэба лічыцца з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, асабліва ж — з думкамі людзей і матэрыяльнымі затратамі». Кэль пасаж! — як кажуць французы. Нічога сабе логіка, нічога сабе пункцік погляду! Да ўсіх іншых хібаў і грахоў нашага заканадаўчага органа юрыст А. Галаўко прыплюсоўвае яшчэ (хоць і асцярожна) і ... нацыяналізм (варыяцыя: антысаветызм). Яму, па ўсёй бачнасці, не падабаюцца гэтыя новыя найменні: Садружнасць Незалежных Дзяржаў, Рэспубліка Беларусь, плошча Незалежнасці, праспект Скарыны...

Дарэчы, доктар юрыдычных навук тут не адзінокі. Доктар гістарычных навук, небезвядомы А. Залескі прыслаў у Вярхоўны Савет і разаслаў ва ўсе рэспубліканскія газеты «Адкрытае пісьмо членам Вярхоўнага Савета», дзе гнеўна дапытваецца, «чаму некаторыя народныя дэпутаты адмоўна ставяцца да многіх сацыяльна-палітычных з'яў, звязаных з савецкім грамадскім ладам?.. Чаму так неўзлюбілі Савецкую ўладу, сталі няўдзячнымі сынамі і дочкамі сваёй сацыялістычнай Бацькаўшчыны?.. Чаму Вярхоўны Савет навязаў беларускаму народу сацыяльна чужую дзяржаўную сімволіку эксплуататарскіх грамадстваў?.. Чаму парламентарыям Савецкай Беларусі не спадабаліся серп і молат — сімвал працоўнага саюза рабочых і сялян? Чаму ім не спадабаліся чырвоны сцяг — сімвал рэвалюцыйнай барацьбы працоўных усяго свету за сваё вызваленне і пяціканцовая чырвоная зорка?..»

Плакальшчыкі па нашым светлым мінулым з яго атрыбутыкай і сімволікай, здаецца, завяршылі карціну. Здаецца, пастаўлены ўжо ўсе кропкі над «і» і пастаўлена ўжо апошняя кропка ў абвінаваўчым акце ў адрас нашага Вярхоўнага Савета. «Суду ўсё ясна!».

Не, не «ўсе» і не «ўсё». Адной «кропкі» я не бачу, прытым вельмі істотнай, можа быць, важнейшай, чым некаторыя астатнія. Як гэта ні дзіўна, але ва ўсіх непахвальных эпітэтах, якія раздаюцца ў адрас парламента злева і справа, у сродках масавай інфармацыі і на плошчах і вуліцах (і на кухнях нашых збяднелых), чамусьці абыходзіцца, прапускаецца **наступнае вызначэнне: «дэнацыяналізаваны, пазбаўлены нацыянальна - патрыятычнай ідэі».** Такі, як у значнай меры тое насельніцтва (свядома пазбягаю слова «народ», не хачу свой народ крыўдзіць), якое гэты Вярхоўны Савет выбірала (без асаблівага выбару, вядома). Вось дзе перш за ўсё сабака закапаны. Так, ён, гэты Савет, не зусім дэмакратычна выбраны, ён у значнай колькасці наменклатурна - партакратычны па сваім паходжанні, ён у пэўным сэнсе непрафесіянальны (хаця парламентарыямі, як вядома, не нараджаюцца і не нараджаюць іх у гатовым выглядзе ў той ці іншай навучальнай установе), ён такі і гэтакі, але асноўная яго бяда — і гэта асабліва добра відаць, калі параўноўваць яго з аналагічнымі па свайму сацыяльнаму і персанальнаму саставу Вярхоўнымі Саветамі, скажам, Расійскай Федэрацыі, Украіны, Малдовы, —заключаецца ў тым, што ён у значнай частцы сваёй (яна, праўда, зменшылася пасля вядомых падзей) не ўсведамляе, каму, якому народу ён заклікаганы служыць, палітычным увасабленнем і калектыўным розумам якой нацыі павінен быць. Ён — прадукт свайго часу, прадукт адпаведнай шматгадовай ідэалагічнай селекцыі і звязанай з ёй дэградацыі нацыянальнай свядомасці беларуса — занадта «інтэрнацыяналізаваны» для такога ўсведамлення.

І перш за ўсё па гэтай прычыне, а не таму, што ён нібыта непрафесіянальны, недзеяздольны, інертны і г. д., ён галасаваў

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ФЕРМЕРЫ

# 3. НЕЧАКАНЫ ФУНДАТАР,

## АБО ЧАМУ АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «БЕЛАГРАПРАМБІРЖА» ЎЗЯЛО НА СЯБЕ ВЯЛІКІЯ ТУРБОТЫ ПА ПРАВЯДЗЕННЮ ПЕРШАГА Ў РЭСПУБЛІЦЫ КОНКУРСУ ФЕРМЕРАЎ

І САПРАЎДЫ — ЧАМУ? Пытанне зусім не рытарычнае. Мы неяк вельмі хутка звыкліся з думкай, што па колькасці біржаў, як і ў галіне балета, мы ўпэўнена крочым «наперадзе планеты ўсёй». Сёння ў СНД кожны горад, які сябе больш-менш паважае, павінен мець уласную біржу. Яна—нібы прыкмета сталасці.

Прывыклі і да дабрачынных біржавых акцый (прабачце за каламбур), асабліва гэтым вызначаюцца маскоўскія біржы. Але гэтая дабрачыннасць дзякуючы тэлебачанню, служыць адначасова і выдатнай рэкламай, працуе на стварэнне пэўнага іміджу біржы, а яе кіраўнікі з «блакітных» экранаў паўстаюць гэткімі сучаснымі мецэнатамі.

Дык ці не за рэкламай пагналася «Белаграпрамбіржа»? Бо ў ліку арганізатараў конкурсу таксама і галоўная рэдакцыя грамадска - палітычных праграм Беларускага тэлебачання. А пра ход конкурсу ёсць дамоўленасць расказваць у спецыяльных тэлеперадачах.

Жаданне зрабіць добрую рэкламу на конкурсе, як гаворыцца, прысутнічае. Яно — натуральнае. Яго не хаваюць і не камуфліруюць работнікі акцыянернага таварыства «Беларуская аграпрамысловая біржа». Было б вельмі дзіўна, калі б яны не імкнуліся да паблісіці. Цяпер без разумна скіраванай рэкламы камерцыйным структурам, тым больш біржам, не абысціся.

Рэклама ад удзелу ў конкурсе фермераў у перспектыўных планах біржы мае не апошняе значэнне. Але для таго, каб нагадаць аб сабе, можна было б знайсці больш эфектыўны і менш турботны спосаб: скажам, выступіць спонсарам конкурсу прыгажосці «Міс СНД». А чаму і не? Мінск, як кажуць, амаль сталіца Садружнасці, таму і карты ў рукі. А фермеры... Хіба зробіш на іх гучную рэкламу?

Магчыма, мы памыляемся, але тое, што біржа ўзяла на сябе клопаты па арганізацыі такога конкурсу, сведчыць аб сталасці яе як акцыянернага таварыства, упэўненасці ў заўтрашнім дні і, што, бадай, самае галоўнае, намеры быць першай у будучай канкурэнтнай барацьбе сярод сабе падобных.

Хаця, здавалася б, пра гэта біржы рана пакуль хвалявацца. Яна ўдала ўпісалася ў біржавыя структуры рэспублікі, ці, як сёння кажуць, знайшла сваю нішу ў рыначнай эканоміцы. Крыху статыстыкі. Усяго за шэсць месяцаў колькасць брокерскіх кантор павялічылася з 80 да 500. Калі на першых таргах выстаўлялася тавараў на 50—60 мільёнаў рублёў, то ў пачатку сакавіка было прапанавана разнастайнай прадукцыі прыкладна на 800 мільёнаў рублёў. Вядома, на агульную суму паўплываў агульны скачок цэн, але ўсё роўна лічба гэтая велізарная.

На апошніх таргах адбылася падзея, якая таксама сведчыць аб росце аўтарытэту «Белаграпрамбіржы». Цікавасць да супрацоўніцтва з ёй праявілі дзелавыя людзі Усходняй і Заходняй Еўропы, Амерыкі. Яны гатовыя наладзіць кантакты з біржай, выстаўляць на яе таргах свае тавары, набываць патрэбную ім прадукцыю. Прычым згодны рабіць тое і іншае нават за рублі. І калі што і ўтрымлівае «фірмачоў» ад шырокіх аперацый, дык гэта адсутнасць адпаведных прававых норм, заканадаўчых актаў, розныя бюракратычныя рагаткі.

Так, сёння справы ў біржы ідуць няблага. Заўтра ж гэтых дасягненняў можа быць мала, нават недастаткова, каб выжыць. А. Чабаганаў, старшыня праўлення «Белаграпрамбіржы», выдатна разумее, што неўзабаве, следам за хуткім, як грыбы пасля дажджу, ростам колькасці біржаў пачнецца адміранне многіх з іх. І гэта будзе жорсткі, але натуральны працэс. У «Белаграпрамбіржы» ёсць немала шанцаў пазбегнуць такога лёсу.

— Мы гандлюем класічным біржавым таварам: збожжам, насеннем, племянной жывёлай, воўнай і г. д. Тым таварам, якім аперыруюць на іншых біржах свету. Праўда, на нашай, як на мінскай «Камароўцы», можна набыць і іншыя тавары. Але здзелкі з дзіцячымі веласіпедамі, іншымі рэчамі з часам павінны адысці да гандлёвых дамоў, аптовых пасрэдніцкіх фірмаў. У нас жа застанецца класічны біржавы тавар. Спадзявацца на лепшую будучыню дазваляе нам і тое, што ў нас у асноўным свой тавар праз свае брокерскія канторы прадаюць самі вытворцы, выкладваў козыры Анатоль Васільевіч.

Між тым, старшыня праўлення не хаваў ад нас заклапочанасці лёсам біржы, скажам, праз 20—30 гадоў. Якім ён будзе? Вядома, Чабаганаву і яго паплечнікам хацелася б бачыць лёс «Белаграпрамбіржы» ў ружовых танах. Але на такую прыгожую будучыню трэба працаваць ужо сёння. І прытым напружана працаваць, каб потым не кусаць локці.

Дык вось, у кантэксце гэтых клопатаў трэба і шукаць адказ на пытанне: чаму ж «Белаграпрамбіржа» нечакана выступіла ў ролі спонсара конкурсу фермераў?

Мы спыталі ў А. Чабаганава, колькі зайцаў мяркуе забіць біржа гэтым стрэлам? І даведаліся: па меншай меры — трох.

Па-першае, прабіць, наколькі магчыма, сцяну варожасці, нядобразычлівасці, недаверу да фермераў у грамадскай свядомасці. Адсюль і актыўнае супрацоўніцтва з тэлебачаннем, радыё, прэсай.

Па-другое, даць магчымасць прадстаўнікам сённяшняга нешматлікага ў Беларусі фермерства сустрэцца разам, пазнаёміцца, абмеркаваць свае праблемы, паслухаць лекцыі, выступленні вучоных, спецыялістаў, юрыстаў. І такім чынам падтрымаць фермераў маральна. Бо нярэдка ён, фермер, сядзіць на сваёй сядзібе адзін на ўвесь сельскі Савет, ловіць на сабе касыя позіркі аднавяскоўцаў, і час ад часу здаецца яму, што застаўся ён адзіны - адзінюткі на ўсім белым свеце. Інакш кажучы, аказаць яшчэ і псіхалагічную падтрымку чалавеку.

Па-трэцяе, у самым пачатку станаўлення фермерскіх гаспадарак, наладзіць з імі надзейныя сувязі, каб у будучым яны сваю прадукцыю прадавалі праз «Белаграпрамбіржу». Каб гэта стала традыцыяй беларускага фермерства. Здарыцца такое — значыць, у біржы будуць моцны падмурак і надзейныя тылы, без чаго не выплыць у бурным моры рыначнай эканомікі.

Ідэю конкурсу аднагалосна зацвердзіў Біржавы савет, хаця, як прызнаўся нам адзін работнік біржы, былі і некаторыя сумненні. Бо ў савеце шмат старшынь калгасаў, у тым ліку кіраўнікоў славутых, так званых гаспадарак-лідэраў. Героі і двойчы Героі Сацыялістычнай Працы. Для іх фермеры — канкурэнты. Аднак «феадалы», «памешчыкі» (нярэдка так абражаюць гэтых вядомых старшынь), не толькі не пярэчылі правядзенню конкурсу, а падтрымалі яго.

Падрыхтоўка да яго пачалася з пісьма старшыні праўлення «Белаграпрамбіржы» А. Чабаганава ўсім без выключэння кіраўнікам сельскіх райвыканкомаў. У ім паведамлялася аб ідэі конкурсу, якую ахвотна падтрымалі Ашчадны і Аграрны банкі рэспублікі, шэраг іншых уплывовых устаноў і ведамстваў. Выказвалася надзея, што райвыканком не пакіне без увагі просьбу арганізатараў конкурсу і акажа садзейнічанне ў яго правядзенні. А прасілі ў пісьме зусім мала: знайсці магчымасць выдзеліць палепшаныя зямельныя ўчасткі для ўдзельнікаў конкурсу плошчай 30—50 гектараў пад будучыя фермерскія гаспадаркі, якімі меркавалася ўзнагародзіць пераможцаў.

Не ўсе райвыканкомы адгукнуліся, не знайшлі, відаць, часу. Магчыма, палічылі, што ахвотнікаў не знойдзецца. Тым не менш, 436 чалавек прыслалі на біржу свае заяўкі. Тыя, хто прайшоў папярэдні адбор, склалі дзве групы: фермераў і жадаючых імі стаць. У другую ўвайшлі не толькі гарадскія і вясковыя жыхары, якія працуюць у сельскай гаспадарцы, але і тыя, хто напрамую не звязаны з ёй.

Прызы звычайна падтрымліваюць высокі напал спаборніцтваў, загартоўваюць волю да перамогі. Удзельнікам конкурсу ёсць за што змагацца. Сярод прызоў трактары: два «МТЗ», два «Т-40», два «Т-25». Акрамя таго, шэсць доўгатэрміновых ільготных (з выплатай пераможцам двух працэнтаў і астатняй сумы па працэнтах «Белаграпрамбіржы») крэдытаў, 30 пуцёвак на курсы павышэння фермерскай кваліфікацыі ў Польшчу. Што і казаць, каштоўныя прызы.

Але авалодаць імі вельмі няпроста. Конкурс разлічаны на тры этапы і зойме ўвесь гэты год. Пры падвядзенні канчатковых вынікаў будуць улічвацца як узровень тэарэтычных ведаў, практычнае майстэрства, так і канкрэтныя дасягненні ва ўласнай гаспадарцы (пры ўмове, што яна ёсць). Бо які ты фермер, калі за год не атрымаеш добрага ўраджаю, надояў, прыбаўлення жывёлы ў вазе? Асабліва пасля лекцый і заняткаў, што праводзіліся з канкурсантамі паміж экзаменамі і залікамі па самых розных тэмах: ад вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі, агародніны, асноў ветэрынарыі—да прававых асноў вядзення фермерскай гаспадаркі, яе банкаўска - бухгалтарскага ўліку.

Магчыма, мы занадта падрабязна раскрываем тэхналогію правядзення конкурсу. Але нам хацелася паказаць, з якой стараннасцю і грунтоўнасцю ўзводзіць біржа свой падмурак. А калі больш шырока паглядзець — дык і наш з вамі таксама. Бо што б ні казалі, але без стварэння грунтоўнага слоя ўласнікаў-фермераў не вырашыць харчовую праграму. Ніякімі там адпаведнымі пастановамі, сесіямі, нарадамі... Патрэбны такія зацікаўленыя спонсары, як акцыянернае таварыства «Белаграпрамбіржа».

**Леанід ЛАХМАНЕНКА,**
**Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

**На здымках:** старшыня праўлення «Белаграпрамбіржы» **А. ЧАБАГАНАЎ**; перад пачаткам таргоў удзельнікі маюць магчымасць пазнаёміцца з таварамі; брокеры **Т. ГУЛІТА** са Жлобіна і **Я. ШЫЛА** з калгаса «XVII партз'езд» Горацкага раёна; гэты перасоўны столік для пасуды прадэманстраваў на таргах супрацоўнік мінскага малога прадпрыемства «ГАЛС» **Д. ДЗЯМКОЎ.**

КАШТОЎНЫЯ ПАПЕРЫ

# Якія акцыі можна купіць?

**Рубрыку вядзе Аляксандр БУРДА, брокер фірмы «Аліна».**

Цяпер і ў Беларусі, і ў краінах СНД існуе даволі многа акцыянерных таварыстваў адкрытага тыпу, акцыі якіх свабодна прадаюцца і купляюцца. Але нават намінальны кошт многіх акцый такі вялікі, што купіць іх не кожнаму дазваляюць сродкі. Такія, напрыклад, акцыі біржаў і гандлёвых дамоў, разлічаныя на багатых пакупнікоў, у першую чаргу — на прадпрыемствы. Мяркуйце самі: намінал акцыі Мінскай біржы — 50 тысяч рублёў (курсавы кошт — 420—450 тысяч), Заходняй біржы нерухомасці — 100 тысяч (курс — больш за 300 тысяч) і г.д.

Аднак разам з дарагімі акцыямі многія акцыянерныя таварыствы выпускаюць акцыі нізкага наміналу, разлічаныя на радавых грамадзян.

І цяпер акцыю можа купіць кожны! Зробім кароткі агляд акцый некалькіх мінскіх акцыянерных таварыстваў. Пачнём з тых, што даражэйшыя, і закончым самымі таннымі.

**Акцыянернае таварыства «Садружнасць».** Намінал акцыі — 3.000 рублёў плюс 100 рублёў на расходы па падпісцы. Устаўны фонд — 30 мільёнаў рублёў. Сфера інтарэсаў — гандлёва-закупачная дзейнасць. Гарантаваны дывідэнд — 16,5 працэнта гадавых. Акцыянеры атрымліваюць значныя льготы пры пакупцы тавараў сваёй кампаніі. Падпіска на акцыі закончылася 29 лютага. Курс акцый на фондавай біржы — 3.100 рублёў.

**Акцыянерная страхавая кампанія БелАСКА.** Намінал акцыі — 1.000 рублёў. Устаўны фонд — 6,6 мільёна рублёў. Асноўная сфера дзейнасці — страхавая справа. Акцыянеры атрымліваюць ільготы пры страхаванні. На выплату дывідэндаў будзе накіравана 20 працэнтаў прыбытку кампаніі. Падпіска закончана 23 студзеня. На біржу акцыі пакуль не выстаўляліся.

**Акцыянерны камерцыйны банк «Прыорбанк».** Намінал акцыі — 1.000 рублёў. Акцыяніраваўся ў лістападзе мінулага года. Устаўны фонд — 107 мільёнаў рублёў. Займаецца банкаўскай дзейнасцю. Чакаемыя дывідэнды — парадку 15 працэнтаў.

Акцыі на біржы выстаўлены па 1.600 рублёў.

**Акцыянернае таварыства фірмы «МОНА».** Намінал акцыі — 500 рублёў. Утворана ў лютым 1991 года. Устаўны фонд — 1,2 мільёна рублёў. Сфера дзейнасці — мантаж і наладка сістэм аўтаматыкі кіравання, металаканструкцый. Дывідэнды за мінулы год выплачаны ў размеры 25 працэнтаў. Акцыі прадаюцца на фондавай біржы па 2.500 рублёў.

**Акцыянернае таварыства «Дэтэктыў».** Намінал акцыі — 100 рублёў. Устаўны фонд — больш 1,5 мільёна рублёў. Сфера інтарэсаў — выданне і продаж кніжнай прадукцыі, кінавытворчасць, замежны турызм. Плануемыя дывідэнды — 25 — 30 працэнтаў, часткова ў валюце. Падпіска закончана 1 сакавіка. На біржу акцыі пакуль не выстаўляліся.

**Беларускі біржавы банк.** Намінал акцыі — 100 рублёў. прадаюцца пакетам па 5 штук. Устаўны фонд — 100 мільёнаў рублёў. Плануемая дзейнасць — банкаўскія аперацыі, крэдытаванне брокерскіх і біржавых структур, улік біржавых здзелак, захоўванне каштоўных папер. Дывідэнды 15 працэнтаў гадавых. Падпіска працягваецца і цяпер. На біржы зарэгістраваны шэраг здзелак з гэтымі акцыямі па намінальнаму кошту на агульную суму 3 мільёны рублёў.

Такім чынам, паважаныя чытачы, перад вамі — шэраг акцый мінскіх кампаній. Параўноўвайце іх паміж сабой, рабіце вывады. У наступным артыкуле мы паспрабуем зрабіць аналіз апісаных акцый, каб дапамагчы вам у выбары. Але ў любым выпадку апошняе слова— за вамі!

Атрымаць кансультацыю па каштоўных паперах і валюце, прадаць ці купіць акцыі можна ўжо цяпер у брокерскай фірме «АЛІНА». Тэл. 64-16-30.

*Мікалай РАЗУМАЎ:*

# «Сённяшняе выратаванне— увод прэзідэнцкага праўлення...»

**Жадаючы таго або не, Мікалай Разумаў стаў адметнай фігурай. І моцна здзіўляцца тут няма чаму: ужо больш дзесяці гадоў Разумаў займаецца праваабарончай дзейнасцю, а за такі час абавязкова фарміруюцца два лагеры — праціўнікаў і прыхільнікаў. Гэта значыць, што ўсе словы і ўчынкі лідэра адбіваюцца ў свядомасці не аднаго, нават не соцень, а тысяч і тысяч людзей, якія, хочаш не хочаш, кіруюцца ў сваіх паводзінах разумаўскімі поглядамі, разумаўскімі заклікамі альбо рэзка не згаджаюцца з імі. Сёння старшыня стачкома горада Оршы, старшыня прафсаюзнай арганізацыі інструментальнага завода, адзін з лідэраў рабочага руху Беларусі Мікалай РАЗУМАЎ — госць рэдакцыі. І, вядома ж, пытанні.**

**— Ва ўсіх сваіх апошніх выступленнях вы папярэджваеце аб магчымай хвалі рабочых выступленняў у пачатку вясны. Зноў паўтор мінулагодніх красавіцкіх падзей?**

— Так, толькі на гэты раз так «удала» ўсё не скончыцца. Я хацеў бы зачытаць тэкст тэлеграм, якія днямі адправіў Ельцыну, Шушкевічу, Кебічу і рэгіянальнаму аддзяленню партыі «Дэмакратычная Расія»: «У выніку безадказнай інертнасці з боку ўпраўлення Беларускай чыгункі да гэтага часу не разгледжаны патрабаванні чыгуначнікаў, што пагражае поўным спыненнем усялякай дзейнасці станцыі дэпо «Орша», якая з'яўляецца важнейшым стратэгічным транспартным вузлом Еўропы. Лічу неабходнасцю яшчэ раз напомніць, што паўтор мінулагодніх красавіцкіх падзей на гэты раз прывядзе да сацыяльнага выбуху. Прашу ў спешным парадку разгледзець патрабаванні беларускіх чыгуначнікаў, тым самым папярэдзіўшы самыя непрадказальныя вынікі».

**— Але гэта што датычыцца менавіта Оршы...**

— Я не скончыў... Самым небяспечным крокам да сацыяльнага выбуху стане маючы адбыцца рэферэндум. Гэта спроба расправіцца з Шушкевічам. І калі гэтая расправа адбудзецца, то масавыя выступленні забяспечаны. Дарэчы, падштурхне да ўсяго гэтага нас апазіцыя.

**— Здаецца, яшчэ паўгода назад вы з непрыкрытай сімпатыяй адгукаліся аб БНФ?**

— Так, у той час я добра адносіўся і да Пазьняка, і да руху ў цэлым. Але час ідзе, і людзі выкарыстоўваюць яго не лепшым чынам. Паслухайце ўрывак з заявы дэпутатаў апазіцыі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі: «Беларусь апынулася на парозе сацыяльнага выбуху. І калі такі народны выбух адбудзецца, які б ён ні быў разбуральны для дзяржавы і грамадства, абурэнне людзей будзе справядлівым». Што ж атрымліваецца? «Франтавікі» загадзя апраўдваюць кроў. Няўжо не тое ж самае казалі бальшавікі ў 1905 годзе? «Узбройвайцеся, дзе толькі можна і чым толькі можна... Толькі сілай і крывёю здабываецца свабода і справядлівасць... Навучыцеся браць сілай тое, што вам трэба, навучыцеся спадзявацца толькі на сябе». Дарэчы, пасля таго, як я параўнаў гэтыя выказванні, БНФ выключыў мяне з ліку сваіх «сяброў» за «ганебныя нападкі», хаця ў лік вялікіх сяброў я ніколі і не ўваходзіў.

**— Каго вы лічыце сваім «сябрам» на сучасным этапе?**

— Я не замахваюся на панібрацтва, але гэта Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч. Я прызнаю, што раней неапраўдана абвінавачваў яго ў многіх грахах і нават называў «пярэваратнем» — за што зараз публічна прашу прабачэння. А ўбачыў я ў Шушкевічу палітыка з вялікай літары ў час «белавежскай эпапеі», якая дала сапраўдную аддушыну надзеі. І першае, што яму трэба зрабіць, — гэта стварыць сваю каманду. Другая немалаважная задача — наладжванне сувязей з рабочым рухам. Інакш будзе цяжка. Праўда, ёсць у яго рабоце і недахопы, тое ж самае, дарэчы, можна сказаць і пра Ельцына. Абодва спазняюцца ў часе. І тым не менш надзеі ёсць вялікія, а каб яны апраўдаліся, нам трэба ўсяляк берагчы Шушкевіча. Доўгі час нам унушалі, што ў Беларусі няма сапраўднага лідэра. Глядзіце, вось ён, беражыце яго!

**— Калі сённяшняе выратаванне не ў рэферэндуме, то ў чым?**

— Рэферэндум сёння—не выратаванне. Выратаванне — увод прэзідэнцкага праўлення. Ва ўмовах такога крызісу неабходна даваць уладу Прэзідэнту. Хто стане першым беларускім Прэзідэнтам? Трэба маліць Бога, каб гэта быў Шушкевіч. На сёняшні дзень гэта адзіны палітык, які зможа выцягнуць рэспубліку з бездані. А калі гэта будзе ваяўнічы фанатык тыпу Жырыноўскага, які вокам не міргнуўшы заўляе, што адну трэць ён расстраляе, адну трэць пасадзіць у турмы, а астатнюю частку паспрабуе пракарміць? Дык што, гэта выйсце?

Што зараз ва ўвесь голас заяўляе БНФ? Маўляў, гэта яны дабіліся суверэнітэту. Пардон, спадарства! Ніхто б не дабіўся суверэнітэту, калі б не ГКЧП. Гэта няўдалы путч даў штуршок да параду суверэнітэтаў. Яшчэ адзін бок «франтавікоў». Прыязджае ў Оршу Хадыка і заяўляе: мы не давяраем Шушкевічу і таму адпраўляем Пазьняка, каб той праз пляччо глядзеў, што будзе падпісваць Шушкевіч. Паглядзіце на замахі! «Мы не давяраем» — гэта ж ужо з пункту гледжання ўлады. Ды ты паспрабуй не лавіраваць у сённяшняй сітуацыі — у адзін момант сядзеш у лужыну.

Таму сёння асноўная задача ўсіх дэмакратычных сіл, усіх людзей, якія хоць трохі разбіраюцца ў палітыцы, — падрыхтоўка да будучых выбараў. Нам патрэбны прафесіянальныя палітыкі, інакш — пішы прапала. Як аб'яднаюцца «чырвоныя» з «карычневымі» і ўтвораць фармацыю «бурых», то мы не будзем ведаць, у якія шчыліны хавацца.

**— Вы неаднойчы заяўлялі, што распрацавалі ўласную прэзідэнцкую праграму. Ці азначае гэта, што на маючых адбыцца выбарах будзе выстаўлена і кандыдатура Мікалая Разумава? Якім чынам Вы збіраецеся ашчасліўіць беларускі народ?**

— Стану я прэзідэнтам, ці не, але такая мэта перада мной стаіць. І я прама заяўляю, што ўжо вызначыў тэрмін, калі буду выстаўляць сваю кандыдатуру. У бліжэйшыя год-два такі крок выключаны, бо ў гэты час усе мае намаганні будуць накіраваны на падтрымку Шушкевіча. Але я ўжо пачаў назапашваць свой палітычны капітал, каб у будучым з'явіцца перад сваімі выбаршчыкамі не з пустымі рукамі. І я ўпэўнены, што мяне падтрымаюць, бо гэты капітал буду зарабляць толькі сваімі справамі, і ні ў якім разе не бруднымі...

**— Скажыце, вам яшчэ ніхто не заяўляў, што ўся ваша дзейнасць — нішто іншае, як блеф, папулізм?**

— Адкажу больш: тыя, каму я ўжо даўно стаю ўпоперак горла, толькі так і кажуць. Зрэшты, мне да лямпачкі, што думаюць пра мяне мае праціўнікі. Кожнае іх слова ў канчатковым выніку працуе на мяне. Трэба ўлічваць і сілу рэкламы, якой бы па якасці яна ні была. А мая ўласная праваабарончая дзейнасць вызначана перш за ўсё канкрэтнымі справамі, якія нельга перакрэсліць, як бы таго камусьці ні хацелася.

Калі пабеглі хлопцы з воінскіх часцей па-за межамі Беларусі, то яны чамусьці прыйшлі да мяне. І сёння я за іх буду змагацца да апошняга, бо на нацыянальнай глебе маладых хлопцаў падводзяць да артыкула аб злачынстве. А тым часам БНФ абвінавачвае мяне, што я збіраю грошы на нацыянальную гвардыю. Трызненне звар'яцелага! Далей. Гэта я знайшоў мужнасць звярнуцца праз Міхаіла Собаля да рабочых Беларусі з заклікам не выходзіць на вуліцы баставаць. Чаму? Лёгка ствараецца прэцэдэнт вінаватасці. У адным горадзе акно разбілі, у другім... Ага! «Для таго, каб...» уводзіцца надзвычайнае становішча. І — прыехалі.

З раніцы да мяне стаіць чарга. у асноўным з інвалідаў і пенсіянераў. І нікому яшчэ не было адмоўлена ў дапамозе. Больш таго, для такіх людзей падрыхтаваны цэлы шэраг вытворчасцей, на якіх людзі змогуць прыносіць карысць і сабе, і прадпрыемству. Усё гэта не пустое выхвалянне — гэта мая пазіцыя. Калі я хачу стаць прэзідэнтам, то павінен паказаць усё, на што варты. І калі я не здолею прайсці ўсе гэтыя этапы, то, калі ласка, называйце мяне папулістам.

**— Дарэчы, вернемся да прэзідэнцкай праграмы. У вас ёсць адзін цікавы пункт, дзе вы з упэўненасцю заяўляеце, што за 20 месяцаў Беларусь без цяжкасцей можа дасягнуць эканамічнага ўзроўню Францыі?**

— Зараз у Беларусі сканцэнтраваны вельмі высокі навукова - тэхнічны патэнцыял, які здольны ў сотні разоў з большай аддачай працаваць на карысць сваёй дзяржавы, калі, вядома, яго зацікавіць у гэтым. Сёння паскоранымі тэмпамі трэба вырашаць пытанне стварэння СП з заходнімі партнёрамі. Але да таго часу неабходна вырашыць пытанне з нацыянальнай валютай.

Другая сітуацыя. Няўжо нам трэба сёння купляць прадукты на Захадзе? Вельмі недальнабачныя крокі. Літаральна кожны дзень там разараюцца малыя і вялікія фірмы. Вось іх і трэба купляць! А потым ужо можна вывозіць прадукты дадому. Не трэба чакаць нейкага бюракратычнага закона аб зямлі. Зямлю трэба раздаць пад умовы. Бярэш кавалак, напрыклад, на 5 гадоў, працуеш на ім, паказваеш прадукцыйнасць вышэй старой, рэалізуеш сваю прадукцыю на рынку — калі ласка, карыстайся надзелам. Пойдуць людзі на зямлю? Абавязкова. Бо ў іх будзе гарантыя неўмяшання звонку.

Патрабуе сур'ёзнага выпраўлення і падатковая палітыка, якая губіць на корані ўсе лепшыя пачынанні. Неабходна ачысціць дарогу малому бізнесу.

Ёсць выйсці і з чарнобыльскага кругавароту. Варта толькі аб'явіць Захаду аб дазволе ўкладваць інвестыцыі ў ліквідацыю чарнобыльскіх вынікаў — і адной праблемай стане менш. Не церпіць адкладу і пытанне з адкрыццём граніц. Кожны цвяроза мыслячы чалавек павінен разумець: ні ў якім разе нельга замыкацца ад знешняга свету.

Наогул, мая праграма змяшчае шэраг новаўвядзенняў, і я пастараюся як мага хутчэй давесці іх да народа. У выпадку паўтарэння кансерватыўнага кругавароту мы зноў прыйдзем да ваеннага камунізму. Зноў кровапраліцце. Эканоміку крывёю можна падняць толькі на кароткі час, а потым усё абрушыцца, бо рабства яшчэ ніколі не давала станоўчых вынікаў.

**— Дарэчы, каго зараз абвінавачваць ва ўсіх грахах: раней былі хоць камуністы?..**

— Дадам: былі і ёсць. І наогул, камуністаў я буду абвінавачваць да таго часу, пакуль яны самі не запатрабуюць грамадскага суда над сабой і сваімі «подзвігамі». Пакуль усе яны не пойдуць на пакаянне, застаецца самае страшнае — прэцэдэнт беззаконнасці. Можа, гэта не камуністы зганялі з трыбуны Сахарава? Можа, не яны ў тандэме з КДБ наладзілі разню ў Вільнюсе? Ды што, мала прыкладаў? Для гэтага і патрэбны суд: ніводнае злачынства не павінна застацца непакараным. А няўжо, скажыце, трэба было прымаць чарнобыльскія «грабавыя», унушаючы людзям, што яны «асуджаныя»? Лічу, што асабіста Гарбачоў, былыя КПСС і КПБ павінны адказаць у адпаведнасці з законам за ўтойванне фактаў чарнобыльскай катастрофы. Бо гэта не што іншае, як генацыд у адносінах да цэлага народа. А камуністы, трэба сказаць, як кіравалі раней, так кіруюць і зараз, праўда, у спешным парадку былі зменены маскі. А на аршанскім «Чырвоным барацьбіце» і да гэтага часу праводзяцца падпольныя сходы былых сакратароў партыйных арганізацый.

**— А вы яшчэ не стаміліся быць носьбітам «вялікіх ідэй»?**

— Гэта сэнс майго жыцця. Так, я пастаянна гавару ад свайго імя і лічу, што гэта адзіна правільная пазіцыя. Страшна, калі «мы — быдла» і ўсё роўна ганарова б'ём сябе ў грудзі. «Мы» ні за што не хочам адказваць, бо бяздзеянне — вельмі зручная пазіцыя. Разваліўся знешне, але застаўся ў кожнага ўнутры «гомасаветыкус» — той жа самы «Мы», чалавек не думаючы, без твару. Ён зробіць усё, што будзе загадана. Жырыноўскі робіць стаўку менавіта на бязлікасць. Узровень культуры нізкі, у Бога не вераць—значыць, можна забіваць, гвалтаваць. Але пазіцыя наколькі зручная, настолькі і злачынная. І што самае дзіўнае, зусім мала каму хочацца нешта выправіць. А пара б...

**Гутарыў**
**Ігар КАРНЕЙ.**

# РОЗГАЛАС

## ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ ПАТРАБУЮЦЬ ТЭЛЕКАНАЛ

ВІЦЕБСК (**В. Залеская, РІД**). Кабельнае тэлебачанне ўсё больш актыўна прабівае сабе дарогу. На Віцебшчыне гэтым займаюцца выключна малыя прадпрыемствы, таварыствы з абмежаванай адказнасцю і маладзёжныя цэнтры. Такіх фірм па вобласці зарэгістравана ўжо восем. Нядаўна іх прадстаўнікі сабраліся ў абласным радыётэлецэнтры. Яны прасілі прадаставіць ім спецыяльны тэлевізійны канал для трансляцыі камерцыйных праграм. Канчаткова ж пытанне аб прадастаўленні эфіру прадпрымальнікам будзе вырашацца ў Міністэрстве сувязі рэспублікі.

## ГАНДЛЮЮЦЬ РАБОЧАЙ СІЛАЙ

ГОМЕЛЬ. Амаль усе прамысловыя прадпрыемствы, будаўнічыя і транспартныя арганізацыі вобласці адчуваюць вялікія цяжкасці з пастаўкай камплектуючых матэрыялаў, сыравіны, паліва і г. д. Як вынік гэтага — скарачэнне аб'ёмаў вытворчасці і працоўнага персаналу.

Тыя ж, хто наогул застаўся без работы, звяртаюцца ў абласны цэнтр занятасці насельніцтва. З пачатку года сюды падалі заявы ўжо больш як 5 тысяч чалавек. Дырэктар цэнтра Іван Конанцаў расказвае, што, калі летась кожнаму трэцяму з чатырох, хто звяртаўся за дапамогай, работу знаходзілі даволі хутка, то зараз гэта зрабіць значна цяжэй. Так, з 600 чалавек, скарочаных з прадпрыемстваў у апошнія дні, работу змаглі прапанаваць толькі 83-м.

Дзе ж выйсце? Яго пакуль не відаць. Адчуваецца няўпэўненасць ў заўтрашнім дні, хто-ніхто спрабуе пераадолець тупіковую сітуацыю самастойна, выездам за мяжу. Так, у Гомелі з'явіліся прадстаўнікі адной італьянскай фірмы, якія маюць на мэце адпраўляць такую танную рабочую сілу ў іншыя краіны. 20 рабочых ужо едуць у Італію. А колькі такіх будзе заўтра?

## ВЯСНА. ПРАДАЮЦЬ НЫРКІ...

**Мяркуючы па ўсім, рэспубліка ўключаецца ў сусветны рынак па продажу чалавечых органаў для перасадкі.**

**Прынамсі, прапановы стаць донарам за свабодна канверсуемую валюту ўжо з'яўляюцца ў рэкламных газетах рэспублікі. У адным з нядаўніх нумароў «Экспрэс-рэкламы» малады чалавек з Наваполацка прапанаваў за СКВ сваю нырку. Да месца дапусціць, што калі ёсць прапанова — значыць, ёсць і попыт.**

**Агенцтва «РІД».**

# Не палохайце парламентам дзяцей

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

супраць непажаданых для яго большасці кандыдатаў у кіраўнікі камісій, галасаваў супраць нашай дзяржаўнасці, нашай новай (хаця і авеянай вякамі) нацыянальна-дзяржаўнай сімволікі. (Праўда будзем справядлівымі, адпаведныя рашэнні ўсё-такі прыняты, і тое, і другое адноўлена ў сваіх правах). Менавіта па гэтай, а не па нейкай іншай, зноў-такі, прычыне адмоўна галасавала дэпутацкая большасць супраць памятнага пункта 15 пастановы «Аб падатках з прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый», у якім гаварылася: «Сума прыбытку выдавецтваў і друкарняў, атрыманая ад выдання кніг і брашур на беларускай мове, падаткам на прыбытак не абкладаецца» (гэта ў сувязі з тым галасаваннем частка нас, дэпутатаў, пакідала ў знак пратэсту залу на чале з тагачасным першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам). Менавіта па гэтай жа прычыне частка Вярхоўнага Савета тармозіць рэалізацыю Закона аб мовах, з упартасцю, вартай лепшага прымянення, блакіруе прыняцце пастановы «Аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі» (двойчы не прыняты на сесіі праект пастановы падвяргаецца зараз абструкцыі з боку некаторых членаў прэзідыума). Менавіта па гэтай жа прычыне, з такой, да смешнага, непаслядоўнасцю і нерашучасцю (чыста па-беларуску, як я казаў ужо на сесіі) вырашалася і ўсё яшчэ вырашаецца пытанне аб утварэнні і назве вайсковага міністэрства, аб прызначэнні яго міністра... Ну, ды, відаць, дастаткова прыкладаў. Думаю, што ад ярлыкоў, ад анамнезу мы змаглі перайсці да дыягназу.

І тым не менш...

Старажытны філосаф заклікаў нас не праклінаць, не плакаць і не смяяцца, а разумець. Дык вось, давайце будзем цвяроза глядзець на рэчы, будзем памятаць, што палітыка — мастацтва магчымага, майстэрства кампрамісаў, што не толькі валюнтарызм, але і ідэалізм у палітыцы небяспечныя (згодна з прынцыпам «не нашкодзь!»). Давайце не будзем нагнятаць нянавісць і варожасць (іх сёння хапае і без таго), застрашваць адзін аднаго і палохаць дзяцей. Не будзем прыпадабняцца да тых двух рознапляменных дзікуноў, якія сустрэліся на прыцемненай лясной сцяжынцы і, не жадаючы саступіць з яе, мірна размінуцца, пачынаюць застрашваць адзін аднаго ўсімі наяўнымі ў іх сродкамі — рагатаннай, немым крыкам, мімікай... Мы ж, здаецца, пасля ўсіх урокаў, спробаў і памылак зразумелі (ці павінны былі б зразумець), дамовіліся (ці павінны былі б дамовіцца), што ў нас адзінае выйсце, адзіны шлях — будаваць цывілізаванае, прававое, дэмакратычнае грамадства, грамадства, заснаванае на павазе чалавечай асобы і вяршэнстве закона (апошнія словы складаюць адзін з Дзесяці прынцыпаў хельсінкскага Заключнага акта, пад якім гэтымі днямі паставіў свой подпіс і Старшыня нашага Вярхоўнага Савета).

Прыгадваецца ў гэтай сувязі мудрая развага Васіля Быкава, выказаная ім нядаўна ў гутарцы з карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва». «Эканамічны крызіс хутчэй за ўсё задоўжыцца,— гаворыць Васіль Уладзіміравіч,— але да гэтага трэба быць гатовым. І разумець, што такі стан рэчаў не залежыць ад чыёйсьці волі альбо недагляду. Нават ад таго не залежыць, што ў нас кепскі ўрад ці Вярхоўны Савет занадта лянівы: тут дзейнічаюць гістарычныя прычыны. Будзе яшчэ шмат тупікоў і пастак. Калі нацыя мае палітычную волю да незалежнасці, дык яна, канешне, з іх выберацца. Іншая справа, калі гэтая воля аслаблена, і на пачатку дарогі карціць вярнуцца назад — тады, можа, і не варта было на гэты шлях ступаць...»

Невясёлы роздум. Палітычная воля нашага народа да незалежнасці, да суверэнітэту, безумоўна, аслаблена. «Баіцца быць беларус беларусам». Выцісканне з сябе раба — працэс пакутлівы і працяглы ў часе. Што гэта так — можна меркаваць і па Вярхоўным Савеце, і па дэпутацкім корпусе іншых узроўняў. Але мяне асабіста непакоіць не столькі тое, што палітычная воля нацыі яшчэ слабая (калі ж ёй было набыць моц?), колькі той трывожны факт, што гэтай волі пагражае небяспека, што ёй процістаіць другая, варожая ёй воля.

Мітынг, які праводзіўся 23 лютага ў парку Горкага па ініцыятыве так званых ДСПС і ПКБ і фармальна прысвячаўся традыцыйнаму святу — Дню Узброеных Сіл, быў не столькі святочным, колькі ваяўнічым, скіраваным палітычна супраць суверэнітэту рэспублікі, супраць усяго беларускага. І ў афармленні, і ў прамовах дэманстратыўна, з выклікам ігнараваліся дзяржаўная (беларуская) мова, назва рэспублікі, яе дзяржаўныя сімвалы (праўда, апошнія ўсё яшчэ ганьбіліся на ўсю моц: не нашыя, маўляў, сімвалы). Мітынг насіў па сутнасці антынацыянальны, антыдзяржаўны, антыканстытуцыйны характар. Але тым не менш вядучы, небезвядомы правадыр «прыхільнікаў камуністычнага шляху» В. Чыкін расхаджваў па імправізаваным памосце з выглядам цыркавога барца, які калі яшчэ і не паклаў, то вось-вось пакладзе на лапаткі ўсіх сваіх ідэйных ворагаў. Другі факт. На першай паласе «Віцебскага рабочага» гэтымі днямі была змешчана аб'ява «Да народных дэпутатаў усіх узроўняў Віцебскай вобласці», і згодна з ёй 3 сакавіка ў Палацы культуры і тэхнікі прафсаюзаў адбыўся абласны дэпутацкі сход, першым на якім стаяла пытанне: «Аб скліканні З'езда народных дэпутатаў СССР»(?!). На сходзе было таксама разгледжана пытанне «аб мяркуемым рэспубліканскім рэферэндуме» і прынята адпаведная, на свой лад і са сваім прыцэлам, фармуліроўка. Паказальна, што ў гэты ж дзень і ў газеце «Вячэрні Мінск» з'явіўся пераказ рэзалюцыі ДСПС аб правядзенні ўсенароднага рэферэндуму» (Чыкін, аказваецца, таксама за рэферэндум).

Такія справы. І калі пра іх загаварыў гэтымі днямі са мной адзін мой выбаршчык і спытаўся пра мае адносіны да рэферэндуму, то я сказаў, што мне больш падабаецца прадуманая дзелавая ініцыятыва Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Наконт стварэння антыкрызіснага камітэта. Наконт таго, каб мы былі пільнымі і гатовымі маральна і арганізацыйна на выпадак надзвычайнай абстаноўкі, пагрозы нашай дзяржаўнасці».

Ну, а што датычыць рэферэндуму, то мне ўяўляецца больш цывілізаваны і адначасова больш просты, без хаджэння ў народ і нездаровага ажыятажу, шлях. Гэта — прыняцце сённяшнім Вярхоўным Саветам новай Канстытуцыі (яе тэкст у першым чытанні ўжо разглядаўся), дзе ёсць і раздзел «Выбарчая сістэма», прыняцце новага Закона аб выбарах і прызначэнне на падставе гэтага закона новых выбараў. Адбудуцца новыя выбары (дай Бог, каб абставіны паспрыялі іх паспяховаму правядзенню), сфарміруецца новы Вярхоўны Савет (варыянты: Вярхоўная Рада, Сойм, Нацыянальны сход), і яго папярэднік, у складзе якога, як высветліцца пазней, было многа добрых, цікавых, разумных людзей, здольных, сумленных, прынцыповых палітыкаў і на рахунку якога, як пакажуць вынікі, было нямала добрых спраў, важных, а то і гістарычных рашэнняў, — яго папярэднік, Вярхоўны Савет дванаццатага склікання, з палёгкай складзе свае паўнамоцтвы... Годна, ціха, без лямanту аб «разгоне», «роспуску», «самароспуску». Большасць маіх выбаршчыкаў прымаюць такую аргументацыю, падзяляюць маю пазіцыю. У іх ёсць яшчэ толькі сумненне, ці пойдуць людзі на новыя выбары. У суседніх з маёй акругах тройчы праводзіліся выбары летась, балаціраваліся вядомыя ў горадзе людзі, рабочыя важакі — і ўсё марна. Урок, які нельга забываць і з якога нельга не рабіць вывады надалей...

Ну, і ў заключэнне некалькі слоў аб тым, як уяўляецца прафесару А. Галаўко рэформа Вярхоўнага Савета з мэтай яго прафесіяналізацыі, якім уяўляецца яму заўтрашні парламент. На жаль, вельмі спрошчана. Крытэрый у заслужанага юрыста тут адзін: «Трэба змагацца за эканомію кожнай капейкі». А раз так, то (цытую) «трэба рэзка скараціць дэпутацкі корпус», «няма патрэбы мець такую колькасць камісій», «трэба скараціць колькасць рэферэнтаў у камісіях», словам, «варта скараціць расходы на ўтрыманне Вярхоўнага Савета і яго органаў». Пытанне, значыць, ставіцца так: чым дзешавейшы парламент — тым ён больш прафесіянальны, чым больш танная ўлада — тым больш яна эфектыўная... Але ж гэта неяк не стасуецца з парадай самога прафесара «настойліва вучыць дэпутатаў патрабаванням законаў і навукі ў кіраванні грамадствам, дзяржавай **з улікам сусветнага вопыту».** Возьмем, напрыклад, вопыт ЗША: «Трапіўшы на агульнанацыянальную сцэну ў 1976 годзе,— расказваецца ў адным з апошніх нумароў часопіса «Амерыка», — сенатар Дэнфарт, як любы новавыбраны сенатар, павінен быў падабраць сабе супрацоўнікаў, якія памаглі б яму разабрацца ў пытаннях дзяржаўнай палітыкі, умела прадстаўляць інтарэсы Місуры і перамагчы на наступных выбарах. Кожнаму сенатару адпускаецца ад 800.000 да паўтара мільёна долараў у год (у залежнасці ад насельніцтва штата) для аплаты расходаў па ўтрыманню офіса на Капіталійскім узгорку. У штаце сенатара 18 чалавек, якімі кіруе начальнік яго канцылярыі...». І далей: «У Місуры Дэнфарт адкрыў чатыры офісы ў розных гарадах штата, каб падтрымліваць сувязь з выбаршчыкамі.

— Гэта мае вочы і вушы,— гаворыць сенатар.

У кожным офісе працуе па два чалавекі, якія займаюцца мясцовымі скаргамі і праблемамі». І гэтак далей.

Дарэчы, у ЗША прынята, што хлопчыкі і дзяўчынкі наймаюцца ў якасці падручных і кур'ераў да сенатараў і кангрэсменаў. Зарабляюць нейкія грошы, а заадно прыглядаюцца, прылучаюцца з маладых гадоў да парламенцкай дзейнасці (некаторыя, магчыма, знаходзяць тут сваё прызванне). Ва ўсякім выпадку, гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак парламентам ужо не напалохаеш...

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

# РАДЫЁПЕРАХВАТ

### «БІ-БІ-СІ»

◆ **Парламент Азербайджана праводзіць экстраннае пасяджэнне, каб абмеркаваць эскалацыю канфлікту з Арменіяй з-за Нагорнага Карабаха. Паводле паведамлення карэспандэнта Бі-Бі-Сі, нацыяналістычная апазіцыя Азербайджана — Народны фронт — патрабуе адстаўкі прэзідэнта Аяза Муталібава. Міжнародная дабрачынная арганізацыя «Медыцына без граніц» заявіла, што, па яе ацэнках, каля 35 тысяч чалавек накіроўваюцца ў цяперашні час у Баку, уцёкамі ратуючыся ад баёў, якія ідуць у самім Нагорным Карабаху і вакол яго.**

◆ Германія накіравала скаргу Чылі ў сувязі з рашэннем гэтай краіны дазволіць былому лідэру ГДР Эрыху Хонекеру застацца ў сваім пасольстве ў Маскве. У заяве міністэрства замежных спраў ФРГ гаворыцца, што пасол Германіі ў Сант'яга атрымаў даручэнне дабівацца ад урада Чылі ўзбуджэння крымінальнай справы супраць Хонекера. Германія дабіваецца яго выдачы як лідэра краіны, у якой дзейнічаў загад расстрэльваць грамадзян, якія спрабавалі ўцякаць на Захад. Бон не згодзен з тым, што далейшае знаходжанне Хонекера ў Маскве з'яўляецца прыватнай справай пасольства Чылі. Ён заклікае і расійскія ўлады адправіць Хонекера ў Германію, дзе ён павінен паўстаць перад судом.

◆ **Тысячы дэманстрантаў выйшлі на вуліцы Сараева — сталіцы Босніі і Герцагавіны з лозунгамі захавання міру ў рэспубліцы. На гэтым фоне Сайрус Вэнс — спецыяльны пасланнік Арганізацыі Аб'яднаных Нацый правёў перагаворы з кіраўніцтвам рэспублікі аб размяшчэнні сіл ААН па падтрыманню міру. Прыбыццё гэтых сіл чакаецца к канцу месяца.**

◆ Сталі вядомы новыя падрабязнасці планаў Злучаных Штатаў Амерыкі аб выкарыстанні часткі іракскіх актываў, замарожаных з моманту ўварвання іракскіх войск у Кувейт. Размова ідзе аб 600 мільёнах долараў, што складае прыкладна палавіну іракскіх актываў, якія знаходзяцца ў ЗША.

◆ **Расія і Кітай падпісалі першае гандлёвае пагадненне пасля таго, як спыніў сваё існаванне Савецкі Саюз. Абодва бакі надзвычай зацікаўлены ў развіцці гандлёвых адносін паміж сабой.**

◆ У суботу былы міністр замежных спраў Савецкага Саюза Эдуард Шэварднадзе накіроўваецца ў Тбілісі. Гэта будзе яго першы візіт на радзіму з 1989 года. Прэм'ер-міністр Грузіі Тэнгіз Сігуа аб'явіў, што Шэварднадзе прыбывае як прыватная асоба, спадзеючыся прыцягнуць укладанні ў новы фонд, які ён стварае ў Грузіі. Сігуа адвергнуў чуткі аб тым, што былы лідэр камуністычнай партыі Грузіі можа быць запрошаны ў састаў новага ўрада.

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

◆ **Былы прэзідэнт Савецкага Саюза Міхаіл Гарбачоў заявіў, што паранейшаму не падтрымлівае многія погляды прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, аднак гэта не азначае, што ён супраць яго курса. Гэта ён сказаў на прэс-канферэнцыі ў Боне. Гарбачоў сустракаецца ў ходзе свайго візіту ў ФРГ з многімі высокапастаўленымі афіцыйнымі асобамі краіны.**

◆ Прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук папрасіў парламент аб'явіць у рэспубліцы на гэты год надзвычайнае эканамічнае становішча. Як ён паведаміў, прамысловая вытворчасць рэзка скарацілася і адчуваецца востры недахват паліва, асабліва ў сельскай мясцовасці. На гэтым тыдні Туркменістан рэзка павысіў цэны на газ, пастаўляемы ім на Украіну. Краўчук папрасіў таксама надзвычайных паўнамоцтваў і прапанаваў, каб спецыяльная камісія з членаў парламента і ўрада вызначыла спіс законаў, дзейнасць якіх трэба прыпыніць на час надзвычайнага становішча. Цяпер парламент Украіны павінен разгледзець прапановы і просьбы прэзідэнта.

◆ **Урад Германіі паведаміў, што прырост прамысловай вытворчасці ў студзені месяцы ў параўнанні са снежнем склаў амаль 6 працэнтаў. Адначасова некалькі зменшылася беспрацоўе як у заходняй, так і ва ўсходняй частках краіны. Гэтыя паказчыкі лепшыя, чым чакалася.**

◆ Як паведаміў міністр замежных спраў Азербайджана Садыкаў, ён звярнуўся да Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Бутраса Галі з просьбай дапамагчы ўрэгуляваць нагорнакарабахскі канфлікт з дапамогай перагавораў. Галі сказаў, што гэта магчыма пры ўмове, што бакі будуць захоўваць спыненне агню і гатоўнасць да перагавораў. Азербайджан гатовы прапанаваць Нагорнаму Карабаху такую форму аўтаноміі, якая забяспечыць пражываючым там армянам самакіраванне.

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

◆ **Па словах эканамічнага саветніка прэзідэнта Расіі Багамолава, ва ўрада ўжо не засталося часу для прыняцця складаных эканамічных рэформ, і ён павінен як мага хутчэй перадаць людзям ва ўласнасць іх жыллё, а таксама раздаць зямлю ўсім, хто гатовы яе апрацоўваць. Багамолаў выступіў на эканамічнай канферэнцыі ў Вашынгтоне. Лібералізацыя цэн у студзені без ліквідацыі дзяржаўнай манаполіі прадпрыемстваў нічога не зрабіла для павелічэння паставак тавараў. Багамолаў заявіў, што мяркуемая лібералізацыя цэн на энергію з'явіцца невыносным ударам для большасці жыхароў Расіі.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

ДАЗВОЛЬЦЕ З ВАМІ ПАЗНАЁМІЦЦА

## *Пані МЭТЛАК:*

# «Жыццё цудоўнае і дзіўнае»

**Рэбеку Мэтлак добра ведаюць у нас у краіне. Жонка пана Д. Мэтлака, былога пасла Злучаных Штатаў Амерыкі ў СССР — маці чацвярых дзяцей, фатограф, мастак па габеленах і проста цікавая жанчына, адразу згадзілася сустрэцца з намі і адказаць на пытанні.**

**— Жанчына ў Амерыцы і жанчына ў былым СССР — ці ёсць штосьці агульнае ў іх праблемах, ці ёсць адрозненне, як Вы лічыце?**

— О, гэта вельмі шырокае пытанне. Ну, як мне здаецца, жыццё жанчын у Амерыцы сёння бліжэй да жыцця вашых жанчын, чым 20 гадоў назад, таму што цяпер у нас усё большая колькасць жанчын ідуць працаваць. Цяпер у большасці, гэтак жа, як і ў вас, ёсць сям'я і ёсць работа, гэтак жа, як і вам, трэба зрабіць штосьці па гаспадарцы і прыгатаваць ежу для мужа і дзяцей. Цяжка, вядома, паспець усё, але гэта цікава. Зразумела, у нас ёсць магчымасці купіць амаль гатовую ежу ў магазіне, і трэба зусім мала часу, каб яе прыгатаваць.

**— А як Вы лічыце, што лепш: калі жанчына працуе, ці калі яна займаецца толькі домам?**

— Калі вы працуеце таму, што вы гэтага хочаце, — гэта, вядома, лепш, а калі вы працуеце таму, што трэба карміць сям'ю, — гэта іншая справа. Але мне здаецца, што жанчынам цяпер жыць цікавей, чым 20 гадоў назад.

**— Пытанне пра Вашы захапленні: фатаграфія, габелены — як даўно Вы гэтым займаецеся?**

— Не вельмі даўно: габеленамі — гадоў дваццаць, фатаграфіяй... ну, скажам, 11 гадоў.

Калі я першы раз убачыла габелены, а гэта былі скандынаўскія работы, яны мне вельмі спадабаліся. Мая сяброўка паказала мне, як гэта рабіць. А фатаграфія — мой муж цудоўны фатограф, і я многа гадоў назірала, як ён здымае, а потым сама стала фатаграфаваць.

**— А дзе Вы вучыліся?**

— Я вучылася ва універсітэце ў Паўночнай Караліне на выкладчыцкім факультэце, а потым у Калумбійскім універсітэце ў Нью-Йорку вывучала параўнальную літаратуру, і яшчэ я вывучала архітэктуру і жывапіс.

**— Вашы дзеці падзяляюць Вашы захапленні?**

— Так, асабліва дачка, яна вельмі добра фатаграфуе, ды і хлопчыкі таксама, але яны не вельмі захапляюцца гэтым.

Усе нашы дзеці ўжо працуюць, і ў нас ужо адзін унук. Ён займаецца рускай мовай. Усе нашы дзеці вельмі добра размаўляюць на рускай мове, як мне здаецца, нават лепш, чым я. Малодшы сын — геолаг. У нас ёсць таксама блізняты, дачка — бібліятэкар, а яе муж — адвакат, яе брат — матэматык, ён працуе за камп'ютэрам, трэці сын — журналіст, а яго жонка — з Ленінграда, яна адвакат, першы сын — архівіст. Вось і ўсё.

Best Wishes to The women of Byelorussia!
Rebecca Matlock

**Найлепшыя пажаданні жанчынам Беларусі. Рэбека МЭТЛАК.**

**— Скажыце, у Вас былі якія-небудзь праблемы з дзецьмі?**

— Не, мы шчаслівыя. У нас у сям'і заўсёды спакойна. Усё добра.

**— Але Вы, мабыць, не часта можаце сабрацца ўсёй сям'ёй?**

— Так, не вельмі часта. Дватры разы ў год. Усе дзеці прыязджалі ў Саюз некалькі разоў, і калі я прыязджала ў Злучаныя Штаты, мы стараліся ўбачыцца. Двое нашых дзяцей жывуць у Нью-Йорку, двое ў Вашынгтоне і адзін сын у Тэнесі.

**— Ці збіраецца пан Мэтлак напісаць што-небудзь накшталт мемуараў, закончыўшы сваю службу ў якасці пасла Злучаных Штатаў у СССР?**

— Так, і я таксама. Я працую над кнігай аб адносінах паміж ЗША і СССР. Мой муж піша вельмі цікавую кнігу пра тое, як усё пачыналася, якія адбыліся змены ў адносінах паміж нашымі краінамі, асабліва ў апошнія гады. А я пішу больш пра людзей, узаемаадносіны паміж імі, розныя цікавыя гутаркі.

**— Вы захапляецеся якім-небудзь спортам у вольны час?**

— Так, я гуляю ў тэніс.

**— А што Вы любіце чытаць?**

— Я нават не магу адказаць: многіх сучасных аўтараў, а з савецкіх, напрыклад, Вазнясенскага. І, вядома, руская класічная літаратура: Талстой, Пушкін, Чэхаў, Тургенеў, Лермантаў.

**— Вы жылі, акрамя ЗША, яшчэ ў некалькіх краінах, ці не так?**

— Так, мы жылі сем гадоў у Афрыцы, гэта было вельмі цікава, потым у Чэхаславакіі і раней у Вене, Аўстрыі.

**— І з пункту гледжання чалавека, які не проста бываў, а жыў у розных краінах, — дзе жанчына жыве лепш?**

— Я лічу, калі ў жанчыны добрая сям'я — яна будзе шчаслівай усюды.

**— Што б Вы хацелі сказаць нашым чытачам?**

— Жыццё цудоўнае і дзіўнае!

**Т. ЗУЕВА,**
**А. АНІСКЕВІЧ.**

## НА ЭКСТРАСЕНСА СПАДЗЯВАЙСЯ...

Экстрасенс прыбыў на сход у Гандлёва-прамысловую палату рэспублікі. Ці, дакладней, гэта было пасяджэнне савета ГПП, на якім абмяркоўваліся вынікі выканання плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця палаты за 1991 год і, вядома, далейшыя задачы, вырашэнне якіх дапамагло б хутчэйшай інтэграцыі беларускай эканомікі ў сусветную. Пасля абавязковых у такіх выпадках даклада і выступленняў, пад канец пасяджэння і выйшаў на трыбуну прэзідэнт Беларускай асацыяцыі экстрасенсаў В. Конанцаў, які заклікаў удзельнікаў абавязкова раіцца з ім і яго калегамі перш чым зрабіць нейкі адказны крок. Ну, а яны могуць дакладна сказаць наконт выгаднасці кантракта, надзейнасці партнёра, падбору кадраў і г. д., а галоўнае — наконт эканамічнай сітуацыі, якая склалася, і яе вырашэння...

Што ж, экстрасенсы не спяць у шапку і расшыраюць сферы свайго ўплыву. Чаго не скажаш пра многія прадпрыемствы, якія не надта вызначыліся ва ўстанаўленні знешнеэканамічных сувязей. Пры гэтым, як адзначыў старшыня праўлення ГПП У. Лясун, не ў поўнай меры аказваюць ім неабходную дапамогу палата і яе абласныя вытворчыя фірмы. Слабым месцам у рабоце палаты застаецца інфармацыйнае забеспячэнне яе членаў данымі аб замежных партнёрах, магчымасцях стварэння сумесных прадпрыемстваў.

Дырэктар выставачнага комплексу У. Булавіцкі таксама падкрэсліў: дзелавыя людзі Захада здзіўляюцца, чаму ў нас гатовы заплаціць за тавар у 5—6 разоў большую цану на біржах і не выходзяць на прамыя сувязі менавіта з яго вытворцамі? Нярэдка адпужвае іх і наша коснасць: напрыклад, пасля правядзення выставак замежнай прадукцыі яе ўладальнікі вымушаны везці ўсе экспанаты назад, хоць з задавальненнем прадалі б іх тут, на месцы. Як гэта звычайна робяць ва ўсім свеце. Прадалі б нават за рублі. Але нельга. Не дазволена.

Зрэшты, гучаў на сходзе і «пазітыў». У прыватнасці, пра заснаванне Беларуска-польскага гандлёвага дома. А яшчэ былі названы лепшыя экспарцёры года: акцыянернае таварыства «Амкадор», ВА «Атлант», Брэсцкі панчошны камбінат, а таксама завод «Ударнік» і «Бабруйскдрэў». Прычым, як тут жа праінфармавалі ўсіх, ВА «Атлант» сёлета, упершыню з прадпрыемстваў рэспублікі і былога Саюза, прысвоілі залаты трафей якасці Міжнароднага клуба лідэраў гандлю, які будзе ўручаны ў Мадрыдзе 31 сакавіка.

Прагучалі таксама запэўніванні ўдзяляць у далейшым пераважную ўвагу маламу сектару эканомікі, заклік да прадпрыемстваў рэспублікі прыняць удзел у майскай выстаўцы ў Аўстрыі «Зроблена ў Беларусі», зварот да саветаў і прэзідыумаў Гандлёва-прамысловых палат дзяржаў — членаў СНД да аб'яднання і каардынацыі...

Аднак, як адрэагавалі ў зале на прапанову прэзідэнта асацыяцыі экстрасенсаў? Становішча ж спраў на многіх прадпрыемствах сапраўды незайздроснае, хоць тых жа экстрасенсаў спецыяльна выклікай. Ва ўсякім разе, не да знешнеэканамічнай дзейнасці...

Зацікавіліся. Праўда, не ўсе. А што датычыць дырэктара знешнегандлёвай фірмы ВА «Атлант» В. Досава — той, здаецца, увогуле застаўся раўнадушным да гэтай прапановы. Што ж, у кожнага свой метад.

**Кар. «Звязды».**

# Непальскі гараскоп на наступны тыдзень

КАТМАНДУ, 6. (**Кар. ІТАР—ТАСС Сяргей Буланцаў**).

**Хочаце — верце, хочаце — праверце**

**Казярог** удастоіцца схільнасці моцных свету гэтага. Важная навіна 14 сакавіка можа даць новы накірунак вашай кар'еры. Пакіньце хатнюю мітусню, яна перашкаджае вашай рабоце. Памятайце, што сэрца прыгажуні (або прыгажуна) здольнае здраджваць. Небяспека зыходзіць ад некага з сяброў.

**Вадалею** прыйдзецца ўспомніць словы з песні Вярцінскага: «Дні ідуць, сум памнажаючы...» Астролаг прадказвае фінансавы крызіс, згубныя падаткі, крах прадпрыемства, праблемы з дзецьмі і ў выніку — дэпрэсіўны стан. Што гэта — пагібель? Не, планеты абяцаюць выратаванне. Трымайцеся.

У **Рыб** хатнія клопаты выходзяць на першы план. Калі дазваляюць абставіны, вазьміце некалькі адгулаў. На службе — затрымка зарплаты. Вы заўважылі на сабе нечы палкі погляд? 12 сакавіка бярыце ініцыятыву ў свае рукі, раіць астролаг.

**Авену** 12 і 13 сакавіка прадпісана павышаная асцярожнасць ва ўсім — вы нечым угнявілі нябесных вяршыцеляў вашага быцця. Захочацца кінуць усё і паехаць далей хоць на нейкі час. Так і зрабіце, даручыўшы справу надзейнаму партнёру. Асцерагайцеся паспешлівасці ў справах і ўчынках.

**Цяльцу** нейкая важная асоба прапануе выпрабаванне. Гэта пробны камень вашага будучага поспеху. Штурвал лёсу ў вас у руках. Жанчынам трэба заняцца асабістым жыццём. Выпадковая сустрэча з нядаўнім знаёмым прыме вельмі інтрыгуючы паварот.

**Блізняты** будуць загружаны вышэй галавы, затое звышурочныя работы шчодра кампенсуюцца. Вас парадуе сітуацыя ў сям'і. Афіцыяльны банкет наведайце абавязкова з жонкай. Калі вы яшчэ не звязаны вузамі Гіменея, 13 сакавіка рыхтуйцеся атрымаць раненне стралой амура.

**Раку** трэба быць больш асцярожным у грашовых падліках — магчымыя растрата, недастача. Не спрабуйце ўтаіць свае пралікі ад шэфа. Пачуццё страты і шкадавання, выклікане ў людзей старэйшага пакалення ўходам на «заслужаны адпачынак», аблегчыцца ўзаемаразуменнем і гармоніяй у сям'і.

**Льву** планеты ў цэлым спрыяюць у справах. Памятайце пры гэтым, што ў вашым акружэнні ёсць нядобразычлівец, у пастку якога вы можаце трапіць 12 і 13 сакавіка. Святы схільныя забяспечыць поспех маладым энергічным дамам, якія імкнуцца працаваць у прэсе, выдавецтве і на тэлебачанні.

**Дзева**, зусім магчыма, 14 і 15 сакавіка адправіцца ў камандзіроўку. Атрымаеце нядрэнныя камісійныя, калі возьмецеся за справу, якую добра ведаеце. Пастарайцеся не спрачацца з-за дробязей з шэфам і саслужыўцамі. Ваша другая палавіна ў гнеўным настроі.

Для **Шаляў** пасля акта куплі-продажу магчыма змена жыхарства. Прафесіянальныя спартсмены знойдуць надзейных мецэнатаў. Пасля 14 сакавіка пачне наладжвацца асабістае жыццё. Ад вас запатрабуюць унесці поўную яснасць у адносіны з блізкім чалавекам.

Калі **Скарпіён** да 11 сакавіка ліквідуе ім жа створаную блытаніну і неразбярыху на рабоце, то адкрые сабе шлях да поспеху. Радавому чыноўніку на гэтым тыдні лепш і не заікацца аб павышэнні зарплаты. Жанчыны прымаюць цікавыя прапановы ад прэстыжных фірм.

**Стральцу** астролаг настойліва рэкамендуе распазнаць і адхіліць траянскага каня, падараванага асобай, якая бярэ над вамі верх, асабліва калі гэта асоба нарадзілася пад знакамі Блізнят або Вадалея. Не супраціўляйцеся жаданню дзяцей уступіць у шлюбны саюз. У закаханых пачынаецца працяглая спрэчка.

## «ВЫСЛАЦЬ У АСОБНЫЯ КРАІ САЮЗА ССР...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Арміі і Савецкай улады і імкнецца да вяртання нямецкіх акупантаў. Таму ў мэтах ліквідацыі і кантролю над мабілізаванымі чырвонаармейцамі і камандзірамі вызваленых абласцей Украіны

Загадваю:

1. Выслаць у асобныя краі Саюза ССР усіх украінцаў, якія пражывалі пад уладай нямецкіх акупантаў.

2. Высяленне рабіць:

а) у першую чаргу ўкраінцаў, якія працавалі і служылі ў немцаў;

б) у другую чаргу выслаць усіх астатніх украінцаў, якія знаёмыя з жыццём у час нямецкай акупацыі;

в) высяленне пачаць пасля таго, як будзе сабраны ўраджай і здадзены дзяржаве для патрэб Чырвонай Арміі;

г) высяленне рабіць толькі ўначы і раптоўна, каб не даць схавацца іншым і не даць даведацца членам яго сям'і, якія знаходзяцца ў Чырвонай Арміі.

3. Над чырвонаармейцамі і камандзірамі з акупіраваных абласцей устанавіць наступны кантроль:

а) завесці ў асобных аддзелах спецыяльныя справы на кожнага;

б) усе пісьмы правяраць не праз цэнзуру, а праз асабовы аддзел;

в) замацаваць аднаго сакрэтнага супрацоўніка на 5 чалавек камандзіраў і чырвонаармейцаў.

4. Для барацьбы з антысавецкім бандытызмам перакінуць 12 і 26 карныя дывізіі НКУС.

Загад аб'явіць да камандзіра палка ўключна.

Народны Камісар Унутраных Спраў Саюза ССР **Берыя**.

Нам. Народнага Камісара Абароны Саюза ССР, Маршал Савецкага Саюза **Жукаў**.

Верна: начальнік 4-га аддзялення палкоўнік **Фёдараў**».

**Такім чынам, высяленню падлягалі практычна ўсе ўкраінцы, таму што «пад уладай нямецкіх акупантаў» аказалася ўся Украіна. Як вядома, не па сваёй волі, а з-за стратэгічных пралікаў будучага генералісімуса.**

**Ясна, што такую глабальную акцыю задумалі з благаславення, ды і па ініцыятыве Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, які адначасова быў і вярхоўным тыранам...**

**Дакументы, перш за ўсё са звышсакрэтных спецархіваў, раскрыюць, відаць, яшчэ не адно страшнае злачынства. Праясніцца сітуацыя і ў адносінах вышэйпрыведзенага загаду, які, на шчасце, не быў выкананы: пакуль украінцы збіралі ўраджай, было прынята больш універсальнае рашэнне, у тым ліку і для беларусаў. У вызваленых раёнах праводзілася пагалоўная мабілізацыя, і прызыўнікоў, як сведчаць відавочцы, без усякай нават кароткатэрміновай падрыхтоўкі, накіроўвалі ў бой. Зыход бою, мяркую, чытачам зразумелы...**

**Ул. ГУЛЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

